# ПАГОНЯ

Чацвер
22 лютага 2001 г.
№ 8 (504)
Кошт 80 рублёў


## «Arche» ды «Наша Ніва» прэзентуюцца

22 лютага а 19-й гадзіне ў Гарадскім доме культуры адбудзецца прэзентацыя часопіса «Arche» і газеты «Наша Ніва». Газету прэзентуе выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара Андрэй Дынько, а часопіс - Валерый Булгакаў, сённяшні галоўны рэдактар.

Свае новыя песні праспявае бард і журналіст Зміцер Бартосік.

Магчыма, апрача гэтых асобаў, прыедзе Адам Глёбус, які пакуль што знаходзіцца за мяжою. Ладзіць дадзеную сустрэчу ГА «Паходня».

Таццяна Клімянкова

## У Гродна едзе кіно Ізраіля

З 25 лютага па першае сакавіка ў гарадзенскім кінатэатры «Кастрычнік» пройдзе Фестываль ізраільскага кіно. Жыхары нашага горада змогуць убачыць пяць мастацкіх фільмаў, створаных ізраільскімі рэжысёрамі за апошнія гады. Пачатак усіх сеансаў а 19-й гадзіне, уваход вольны. Паралельна з паказам фільмаў будзе дзейнічаць выстава панарамных здымкаў «Далягляды», прысвечаная сённяшняму Ізраілю.

На адкрыццё дзён ізраільскага кіно плануецца прыезд надзвычайнага і паўнамоцнага амбасадара Ізраіля ў Беларусі Марціна Пелед-Флекса. Адкрыецца фестываль меладрамай Арына Каплуна «Сябры Яны», фільмам, які атрымаў 20 прызоў на разнастайных міжнародных кінафестывалях, а два гады таму намінаваўся на «Оскара». Акрамя гэтага, гарадзенцы змогуць убачыць трагікамедыю «Загадай карту» рэжысёра Жулі Шлеса, іранічную гісторыю кахання Саві Габізона «Закаханы ўтрапенец з Нона-Стрыт», лірычную камедыю «Бязмежная радасць» майстра Эрана Рыклі і «Скрыжаванне «Вулкан» Ігала Бурсціна.

Як паведамілі ПАГОНІ ў амбасадзе Ізраіля, «гэта не традыцыйнае жыдоўскае кіно, а сучасныя фільмы сучасных ізраільскіх кінематаграфістаў, якія будуць цікавыя кожнаму гледачу».

Павал Мажэйка

## Конкурс на лепшы помнік памежнікам

Неўзабаве ў Гродне будзе ўзведзены мемарыяльны ансамбль воінам-памежнікам, якія загінулі ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны пры абароне Дзяржаўнай мяжы. Дзеля гэтага напрыканцы мінулага года Дзяржаўным камітэтам памежных войскаў і Міністэрствам культуры абвешчаны бліц-конкурс на лепшы эскіз мемарыяльнага помніка. Ён працягнецца да першага сакавіка.

Ахвотныя ўдзельнічаць у праекце могуць дасылаць свае прапановы ў Беларускі Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны на адрас: г.Менск, праспект Ф.Скарыны,25а.

Пераможцы атрымаюць грашовыя прэміі: першая прэмія - 200 тысяч рублёў, другая - 150 тысяч рублёў, трэцяя - 100 тысяч рублёў. Аўтар лепшага праекту атрымае права выканання замовы па стварэнні мемарыяльнага ансамбля. Неабходную дадатковую інфармацыю можна атрымаць у галоўнага архітэктара горада Уладзіміра Анісімава.

Згодна з пастановай гарадзенскага гарвыканкама, для мемарыяльнага ансамбля прапануюцца наступныя месцы: вуліца Белуша (тэрыторыя ля мемарыяльна-воінскіх могілак) або вуліца Савецкіх пагранічнікаў (тэрыторыя ля скрыжавання з вуліцай В.Соламавай).

Рэгіна Станкуце




22, 23 лютага - воблачна, часам - снег, завея, вецер паўночна-заходні, 7-12 м/с. Тэмпература паветра 22 лютага ўначы -2...-8, удзень -4...+1; 23 лютага ўначы -12...-17, удзень -4...-9.



Апошнія ўцехі зімы
Фота Міхаіла Анішчанкі

## Падатковыя інспекцыі будуць браць штурмам

**Тыдзень застаўся да заканчэння тэрміну падачы дэкларацыі аб даходах. З першага студзеня да дзесятага лютага свае даходы задэкларавалі 6890 асобаў. Тым, хто не паспее да першага сакавіка запоўніць дэкларацыю, пагражае штраф у памеры 10-50 мінімальных заробкаў.**

Падаць дэкларацыю мусяць асобы, якія маюць некалькі крыніцаў даходу і сукупны даход якіх перавышае суму 652080 рублёў за год. Асобы, якія маюць прыбытак больш за пазначаную суму, мусяць выплаціць да 15 траўня падаходны падатак з сукупнага гадавога даходу ў памеры 15 працэнтаў (падаходны падатак на гадавы даход, які не перасягае мінімальны бар'ер, утрымліваецца па стаўцы дзевяць працэнтаў). Спазненне пагражае зноў жа штрафамі.

Практыка падачы дэкларацыяў праводзіцца ў Беларусі ўжо другі год. Уведзена яна была з мэтай уніфікацыі беларускай падатковай сістэмы з былой расейскай. За мінулы год падалі дэкларацыі каля 25 тысяч чалавек. Гэта, мяркуе намеснік начальніка Упраўлення метадалогіі падаткаабкладання фізічных асобаў Віктар Рынкевіч, прыкладна 70 працэнтаў ад тых асобаў, якім належала запоўніць дэкларацыю.

Не ўсе людзі ідуць у падатковую камісію добраахвотна. «Зайцоў», звычайна, «вылічваюць», супастаўляючы справаздачы падатковых інспекцыяў розных раёнаў, і запрашаюць у падатковую камісію.

Сёлета падача дэкларацыяў ідзе ўдвая хутчэй, чым летась. Аднак, адпаведна сцвярджэнню Віктара Рынкевіча, мінулагодняя практыка паказвае, што большасць дэкларацыяў падаецца ў апошні момант:

- Не ідуць, не ідуць - а потым у нас ўтвараюцца чэргі.

Таму ў падатковай камісіі мяркуюць, што да першага сакавіка іх зарэгіструецца 25-30 тысяч асобаў.

Алеся Сідлярэвіч

## Шалёная карова са Шчучыншчыны

**У вёсцы Даўлюдаўшчына Шчучынскага раёна зафіксаваны выпадак каровінага шаленства. Гэта тып шаленства, які характэрны для дзікіх жывёлаў. На яго часта хварэюць лісы і сабакі. Аднак супрацоўнікі Шчучынскай ветэрынарнай службы не памятаюць, каб такая хвароба была выяўлена ў каровы.**

Ветэрынары не ведаюць, як дакладна хвароба перадалася карове. Магчыма, яшчэ ўлетку ў полі яе ўкусіла ліса. Магчыма, ёй перадаўся вірус ад сабакі.

Праявілася хвароба ў каровы некалькі тыдняў таму. Яе гаспадар звярнуўся да лекараў. Рагулю лячылі пэўны час, праўда, не ад шаленства. Урэшце рэшт, дзевятага лютага яна здохла. Толькі тады, калі ўзялі мозг каровы на экспертызу, ветэрынары выявілі ў яе шаленства.

Спецыялісты правялі вакцынацыю сям'і гаспадара каровы і ягонай хатняй жывёлы. Яны спадзяюцца, што вірус нікому не перадаўся. Але сцвярджаць гэта дакладна не магчыма. Бо шаленства - спецыфічная хвароба. Яе інкубацыйны перыяд цягнецца вельмі доўга і выявіць яе немагчыма. Колькі пражыве чалавек ці жывёла, якія заразіліся шаленствам, залежыць ад іхніх арганізмаў (месяц, год, некалькі гадоў). Але ў любым выпадку іх чакае смерць.

Марыя Тапілеўская

## Якія яны - беларускія мужчыны ?

**23 лютага — Дзень абаронцаў Айчыны. Напярэдадні гэтага свята школьніцы старанна малююць паштоўкі сваім аднакласнікам, а жанчыны мітусяцца па базарах і крамах, разбіраючы парфуму, гальштукі, партманэ - падарункі сваёй другой палове. Адным словам, мужчыны ў гэты дзень - у цэнтры ўвагі. Ім і прысвечана сённяшняе апытанне ПАГОНІ. Дык якія яны, нашы беларускія мужчыны?**



**Ірына Мікалаеўна**, працуе прыбіральшчыцай:

- Беларускага мужчыну я ўяўляю перш за ўсё працавітым. Ён заўсёды дбае, каб яго сям'я жыла ў дастатку. Да таго ж, нашыя мужчыны справядлівыя і рэалістычныя. Увогуле, думаю, у іх больш станоўчых якасцяў, чым у іншых мужчынаў.



**Вольга і Марына**, навучэнкі педвучэльні:

- Сучасныя хлопцы, у прынцыпе, розныя: сціплыя і неразгаворлівыя, нахабныя, інтэлігенты і донжуаны. А ўвогуле, беларускія мужчыны, хутчэй за ўсё, - добрыя і даверлівыя. Любога мужчыну вельмі лёгка падмануць.

**Уладзімір**, пенсіянер:

- Беларускія мужчыны, як і ўсе беларусы, непрабіўныя і абыякавыя: як ёсць сёння, так і добра.



**Адольф**, юрыст:

- Расцяпы, безалаберныя, недысцыплінаваныя. Раз у нас краіна такая разваленая, значыць і людзі такія. Палякі, напрыклад, немцы, літоўцы больш дзелавыя і прадпрымальныя.



**Зінаіда Канстанцінаўна**, бухгалтарка:

- Ндрэнныя хлопцы - беларусы. Уважлівыя да жанчынаў, прыгожыя, тактоўныя, памяркоўныя. Апошняя, упэўнена, вельмі выдатная рыса: заўсёды лепш спачатку падумаць, а пасля сказаць. Разам з тым, яны настойлівыя і ўпартыя, у добрым сэнсе, калі возьмуцца за справу, заўсёды давядуць яе да канца.

**Павал**, працуе ў «Белкамбанку»:

- Галоўная рыса беларускіх мужчынаў, на мой погляд, - сціпласць. Сціпласць па жыцці. Мець добрую працу, кахаць і быць каханым - вось галоўнае, што нам трэба.

Мужчынамі цікавілася
Алеся Сідлярэвіч

# Кандыдат заўсёды ў воку, а выбаршчык чамусьці збоку

**Шаноўная знакамітая большасць! У тваіх руках лёс краіны і мой уласны, таму, можа, паразважаем разам, што патрэбна ведаць, каб выкарыстаць свае права выбару аднаго кандыдата, прычым не абразіць астатніх ды не нашкодзіць сучаснікам і будучым пакаленням. За апошнія сем гадоў, калі дэмакратыю большасць лічыць як усёдазволенасць, назіраючы за паводзінамі суграмадзянаў, я набыла невялікі досвед у структуры нашага грамадства, якім і хачу падзяліцца з чытачамі ПАГОНІ.**

Як толькі пачынаецца перадвыбарная кампанія, амаль кожны лічыць, што мае права выліваць цэбры бруду на кандыдатаў апанентаў і мазаць мёдам сваіх улюбёнцаў. Кожны ведае, якім павінен быць кандыдат, але не звяртае ўвагі на сябе (выбаршчыка) і на свае паводзіны ў грамадскім жыцці. Здавён жа ў народзе кажуць: «Якія самі, такія і сані». Праходзяць стагоддзі, а словы гэтыя не губляюць сэнсу, асабліва відаць гэта цяпер.

Калі хто пазнаў сябе - не крыўдуйце. Задумайцеся, ці мелі рацыю, робячы той ці іншы крок, і якім ён будзе на будучых выбарах. Бо ўсе, хто мае права голасу, агулам, з'яўляюцца грамадзянамі краіны, лёс якой вырашаецца простай большасцю галасоў. Жыццё ў краіне, дзе ўсё «давалі», скончылася. Цяпер мы павінны зарабляць і за ўсё плаціць. Так жыве ўвесь цывілізаваны свет. Мой асабісты лёс склаўся так, што я ніколі не належала да большасці. Таму мне цяжка пагадзіцца з думкай, што большасць заўсёды мае рацыю. Але гэта права большасці, якое я павінна паважаць. Такі выбарчы закон краіны, і я павінна яго выконваць. Каб дасягнуць сваёй мэты, я таксама хачу выкарыстаць уласнае права меншасці на выказванне сваіх думак і пажаданняў. Пры наяўнай «інфармацыйнай прасторы» ў нашай краіне зрабіць гэта складана, але неабходна выкарыстаць усё, што прымусіла б кожнага выбаршчыка зразумець, што ён - гаспадар уласнага лёсу, пакуль трымае бюлетэнь у руках. А як толькі апусціць у скрынку, адразу трапляе пад уладу свайго выбранніка, і пачынаецца жыццё ў краіне не па перадвыбарнай праграме, а нярэдка і не па Канстытуцыі.

Да месца было б, хіба, узгадаць і пра беларускую інтэлігенцыю. Можа, годзе быць «праслойкай», якую размазваюць то на сялянаў, то на рабочых. Калі вы абыякавыя да ўласнага лёсу, то дапамажыце тым, хто хоча «людзьмі звацца». Інтэлігента ў першым калене можна хутка навучыць банан відэльцам есці, а набыць пачуццё чалавечай і прафесійнай годнасці адразу немагчыма. Чалавек, адарваны ад сваіх каранёў, не маючы ні матэрыяльных, ні духоўных каштоўнасцяў, не можа быць вольным. Але, атрымаўшы адукацыю, ён павінен выкарыстоўваць яе не толькі для заробатку грошай. Духоўнасць нацыі залежыць ад інтэлігенцыі. Падвышэнне заробкаў да 100 даляраў не можа разглядацца як перспектыва на будучыню. Бо невядома, колькі будзе каштаваць хлеб, вада і ўсё астатняе, і скуль возьмуцца тыя даляры. Гэта не пра ўсю інтэлігенцыю, але, на жаль, пра большасць яе. Калі хочаце зменаў, шаноўныя, то пачніце з сябе, са свайго стаўлення да грамадскага суіснавання, а не чакайце, пакуль вам хтосьці абвесціць, што з заўтрашняга дня пачынаецца лепшае жыццё. Дарэчы, слова «лепшае» таксама можна разумець па-рознаму. Давайце прыхаваем сваю «кемлівасць» і прымусім працаваць розум і памяць.

Пра тое, як праходзілі выбарчыя кампаніі 100-гадовай даўніны, я даведалася з артыкула «Tlumy wyborcze», надрукаванага ў часопісе «Lechita» за 1907 год. Вельмі хочацца, шаноўныя чытачы, прапанаваць і вам гэты артыкул у скарачэнні. Мне падалося, што напісана ў ім і пра нас, выбаршчыкаў.

**«Вялікую колькасць людзей, закліканых да выбараў прадстаўнікоў парламентаў ці іншых дзяржаўных установаў, знакаміты французскі навуковец Густаў Ле Бон называе «выбарчым натоўпам». Уся іхняя праца палягае на выбары аднаго сярод некалькіх кандыдатаў і грунтуецца на слабой здольнасці разумення, недастатковай арыентацыі, уражлівасці, легкавернасці і прастаты пачуццяў. На іхнія рашэнні і дзеянні ўплываюць доказы, паўторы, прыгажосць і недахопы яе. Калі прааналізаваць спосабы, пры дапамозе якіх можна заваяваць «выбарчы натоўп», то зразумеем яго псіхалогію.**

**Адной з якасцяў, якой павінен адпавядаць кандыдат - асабістая прыгажосць. Ні геніяльнасць, ні асабістыя здольнасці не забяспечаць такога поспеху. Пры дапамозе прыгажосці кандыдат без дыскусіі ўспрымаецца натоўпам. Выбарчыя натоўпы, якія ў большасці складаюць рабочыя і сяляне, рэдка выбіраюць кандыдатаў са свайго атачэння, бо не бачаць у гэтых асобах ніякай прыгажосці. Калі здараецца так, што выбраннікам застаецца рабочы ці селянін, дык толькі таму, што натоўп хоча папсаваць настрой якому-небудзь не сімпатычнаму ім кандыдату, ад якога яны залежаць.**

**Выбаршчык хоча хоць на хвіліну мець адчуванне, што ў ягоных руках лёс яго «пана» (кандыдата). Але гэтага мала для безумоўнай перамогі. Патрэбна яшчэ ўлавіць легкадумства і пажаданні выбаршчыкаў, падтрымліваць іх і даваць ім самыя фантастычныя абяцанні. Калі выбраннік рабочы - трэба як мага больш абурацца на адрас сваіх працадаўцаў, свайго праціўніка кандыдат павінен ганьбіць, сцвярджаючы і паўтараючы ўвесь час, што той - чалавек несумленны і ягоныя злачынствы вядомыя ўсяму свету. Пасля такіх выказванняў ды іх паўтарэнняў можна быць упэўненым у псіхалагічнай апрацоўцы выбаршчыкаў і ў асабістым поспеху. Разумеецца, што довады прыводзіць не абавязкова. Калі праціўнік не ведае псіхалогіі натоўпу, будзе апраўдвацца, даказваючы хлуслівасць абвінавачванняў, замест таго, каб даказваць процілеглае, што і зменшыць ягоныя шанцы да мінімуму.**

**Друкаваная праграма не павінна быць вельмі катэгарычнай, каб не даць зброі ў рукі праціўніка. Не трэба скупіцца на вусныя абяцанні, не запамінаючы найбольш радыкальныя рэформы. Такая тактыка на той час дае добры эфект і ніякіх абавязкаў на будучыню. Заўважана, што выбаршчык не ў стане аналізаваць, наколькі кандыдат выканаў сваю праграму, на падставе якой і быў абраны. Таксама варта карыстацца словамі і выразамі, якія валодаюць магічнай сілай. Прамоўца, які ўмее іх ужываць, упэўнена павядзе натоўп, куды захоча. Такія звароты, як «наглы капіталізм», «нікчэмны выскачка», «сацыялізацыя багаццяў» і г.д., хоць крыху ўжо і зацёганыя, але заўсёды дасягаюць пажаданых вынікаў.**

**Кандыдат, які знойдзе новыя выразы, хоць па сэнсу і крыху імглістыя, але з водгукам пажаданняў выбаршчыкаў - заўжды будзе мець поспех. Гішпанскай рэвалюцыі 1873 года спрыяў магічны шматзначымы выраз, які кожны можа разумець па-свойму: «Няхай жыве Федэральная Рэспубліка». Адныя разумелі гэта, як уклад паўночнаамерыканскага ўзору, другія - як раздзяленне Гішпаніі на малыя правінцыі і наданне ім улады і г.д., але на той момант гэта падабалася ўсім.**

**Не вельмі цяжка ўздзейнічаць на выбарчы натоўп кандыдату, які мае пэўныя шанцы і валодае пэўнай сумай грошай».**

Ле Бон не робіць з гэтага ніякіх высноваў і сцвярджае, што, нават, каб меў магчымасць што-небудзь змяніць у праве большасці, то пакінуў бы ўсё як ёсць.

**«Недахопы галасавання настолькі відавочныя, што іх нельга не заўважыць. Вядома, што цывілізацыю стварае невялікая колькасць людзей, у першую чаргу багатых духоўна з дадаткам геніяльнасці ды адукаванасці. Яны ўтвараюць верх піраміды, ступені якой, пашыраючыся, ахопліваюць усё большую колькасць людзей, сэнсавая каштоўнасць якіх змяншаецца. Відавочна, што перамогу гэтыя пласты насельніцтва маюць толькі колькасную і не могуць уплываць на развіццё цывілізацыі. Такое права галасавання мае і свае небяспечнасці, бо адначасова з трыумфам сацыялізму фантазія ўсеўладных каштаваць нам будзе шмат».**

Ле Бон прыходзіць да высновы, што дзяржаўныя інстытуты і ўрад у лёсе народа адыгрываюць нязначную ролю. **«Іхнія (народныя) лёсы, у асноўным, вырашае духоўнасць таго ці іншага народа і спадчына (традыцыі, культура, гісторыя і г.д.). Свядомасць і таямнічыя вымаганні штодзённага жыцця - дзве ўлады. У іхніх руках - лёс народа».**

Падзеі стогадовай даўніны, а здаецца, што гэта ўсё пра нас.

**І.Барысевіч,**
**мястэчка Парэчча, в.Пяскі**

# Пазьняка просяць у прэзыдэнты

**18 лютага ў Менску адбылася Соймавая канфэрэнцыя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» й Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ з удзелам больш як 200 прадстаўнікоў рэгіянальных арганізацыяў руху і партыі з усяе краіны.**

Быў заслуханы ліст Старшыні БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ спадара Зянона Пазьняка. Выконваючы абавязкі старшыні на Беларусі спадар Юрась Беленькі выступіў з дакладам, выступілі таксама намесьнікі старшыні й удзельнікі канфэрэнцыі. Галоўным пытаньнем дакладаў і абмеркаваньня былі маючыя адбыцца сёлета прэзыдэнцкія выбары. Было неадназоава падкрэсьлена, што гэтыя выбары павінны адбыцца паводле беларускага сцэнару, а не ў форме чарговага фарсу марыянэткавага прамаскоўскага рэжыму. Соймавая канфэрэнцыя зьвярнулася да спадара Зянона Пазьняка з заклікам прыняць удзел у прэзыдэнцкіх выбарах у якасьці кандыдата.

**Ул. інф.**

# Каго «пакрыўдзіў» Чыгір-малодшы

**На працягу некалькіх дзён беларускае тэлебачанне паказвала ролік, дзе Юрый Цылюлька рашуча выкрываў Аляксандра Чыгіра і проста ў твар ягонай маме выказваўся пра тое, што ён сын - злодзей. Тым не менш, гэтае відовішча ў мастаўчанаў выклікала толькі ўсмешку: як у простых людзей, так і ў чыноўнікаў.**

Жыхар вёскі Пескі Мастоўскага раёна Юрый Цылюлька пачынаў свой жыццёвы шлях рамантычна, дапамагаў міліцыянту К. красці свіней з фермы мясцовага калгаса «Ленінец», за што быў арыштаваны ды асуджаны на два гады ўмоўна. Адбывалася тое ў 80-я гады. Надалей здзіўляць мастаўчанаў Юрый Цылюлька стаў напрыканцы 90-х. Уладкаваўся інспектарам у падатковую інспекцыю ды распачаў выяўляць несумленнасць прадаўцоў, але рабіў гэта дзіўным чынам. У 1997 годзе існавала пэўнае ўнармаванне продажу прадуктаў. Цылюлька распачаў справу са сваёй вёскі. Пасылаў у краму хлапчука, каб той купіў тавару больш за норму. Спагадлівыя цёці-прадаўшчыцы шкадавалі дзіця ды задавальнялі ягоную просьбу. Тут з'яўляўся падатковы інспектар, пераважваў тавар ды штрафаваў дабрадзеяў.

У 1998 годзе Юрыя Цылюльку затрымалі ў п'яным стане супрацоўнікі ДАІ ды пазбавілі вадзіцельскіх правоў тэрмінам на два гады. Гэтае рашэнне «мастоўскі змагар з карупцыяй» доўга аспрэчваў у шматлікіх інстанцыях, у тым ліку і ў судзе, але права кіраваць машынай у п'яным стане не абараніў. Тады пачаў ездзіць на машыне без дакументаў, за што быў аштрафаваны, але штраф не сплаціў і па сёняшні дзень. З падатковай інспекцыі вымушаны быў звольніцца ды падаўся працаўладкоўвацца ў пракуратуру, папярэдне палохаючы ўсіх турмою. У пракуратуру Цылюльку не прынялі, і таму на сённяшні дзень ён - беспрацоўны.

Пра штукарствы Цылюлькі ў свой час пісала незалежнае выданне «Мастоўскі веснік», а ў аддзеле крымінальнага вышуку Мастоўскага РАУС у альбоме са злачынцамі і дагэтуль захоўваецца яго фотаздымак.

Зусім нядаўна ў Мастоўскі РАУС паступіла заява ад прыватнай асобы, што ў Юрыя Цылюлькі незаконна захоўваецца зброя - пісталет. Праўда, падчас вобыску зброю не знайшлі, але знайшлі самагонны апарат.

Мастаўчане вельмі скептычна ставяцца да таго, што казаў з тэлеэкрана іх зямляк. Яны яму проста не вераць, не вераць і ўладам.

**М.Карпейчык**

# Ці дапамогуць «круглыя сталы»?

**20 лютага ў рэдакцыі газеты «Наша ніва» адбыўся «круглы стол» на тэму «Ці павінна ўдзельнічаць культурная эліта ў будучых прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі?»**

У дыскусіі прынялі ўдзел пісьменнікі Уладзімір Арлоў і Адам Глёбус, палітык Аляксандр Дабравольскі, перакладчык Васіль Сёмуха, актор Віктар Шалкевіч ды інжынер Васіль Акудовіч. Выступоўцы выказвалі розныя, часам палярныя думкі, але аднадушна пагадзіліся з тым, што культурная эліта Беларусі нягледзячы ні на што павінна прыняць самы актыўны ўдзел у будучых прэзідэнцкіх выбарах. Калі абмяркоўваліся персаналіі прэтэндэнтаў на найвышэйшую пасаду ў дзяржаве, дык Зянон Пазьняк і Аляксандр Лукашэнка былі названы палітыкамі мінулага стагоддзя. На думку ўдзельнікаў «круглага стала» здаровыя сілы ў грамадстве, у тым ліку і культурная эліта, павінны пераканаць выбаршчыкаў, што трэба абраць абсалютна новага, незаангажаванага ў бюракратычных структурах чалавека. Імя прэтэндэнта адкрыта не называлася, але яны прагназуюць, што гэты чалавек паходзіць з Гарадзеншчыны.

Шаноўнай «культурнай эліце» варта нагадаць, што імя дастойнага кандыдата з Гарадзеншчыны даўно вядома, і не толькі чытачам ПАГОНІ. Гэта - Сямён Домаш. І «культурная эліта» гэта ўжо, здаецца, усвядоміла. Але калі яе «слаўныя прадстаўнікі» і надалей будуць размаўляць з народам паўпраўдамі, дык ён на выбарах чарговы раз іх «пракіне».

**Ігар Гандлеўскі**

# «Рэзананс» ізноў хлусіць

**20 лютага савет Міжнароднага інстытута палітычных даследаванняў (МІПД) распаўсюдзіў заяву, у якой сцвярджае, што не нясе адказнасці за інфармацыю, што распаўсюджвае праграма «Рэзананс» Беларускага тэлебачання.**

Справа ў тым, што апошнім часам у «Рэзанансе» прыводзіліся вынікі апытанняў грамадскай думкі, якія праводзіліся нібыта пры ўдзеле Міжнароднага інстытута палітычных даследаванняў. Аднак, як вынікае з заявы, МІПД, афіцыйна зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь, «не праводзіць сацыялагічных даследаванняў, не мае ніякіх адносінаў з праграмай «Рэзананс» і таму не можа несці адказнасці за агучаную ў гэтай тэлепраграме інфармацыю».

**Уладзімір Глод**

# Гардэроб усё-ткі нясе адказнасць за пакінутыя ў ім рэчы!

**На мінулым тыдні гарадзенка Вольга Кудраўцава выйграла судовую справу супраць начнога дыскаклуба «Эпалет».**

Напрыканцы снежня Вольгу напаткала вельмі непрыемнае здарэнне: падчас наведвання начной дыскатэкі «Эпалет» з гардэроба была скрадзена яе новая скураная куртка. Адміністрацыя клуба адмовілася несці адказнасць за крадзеж. Пацярпелай было прапанавана толькі некалькі тысяч рублёў, каб яна змагла ўзяць таксі і даехаць дахаты (на двары быў страшэнны мароз). Аднак дзяўчына паехала не дамоў, а ў міліцэйскі пастарунак. Быў складзены пратакол, аднак і гэта не напалохала дырэктара «Эпалета». Ён па-ранейшаму адмаўляўся браць на сябе адказнасць за здарэнне... Крымінальная справа міліцыянтамі распачата не была, таму Вольга Кудраўцава звярнулася з заявай у суд Ленінскага раёна горада Гродна.

Выкліканы на пасяджэнне суда дырэктар «Эпалета» меў ужо зусім іншы настрой: ён быў гатовы кампенсаваць дзяўчыне скрадзенае. Суд падтрымаў гэтае «шляхетнае пажаданне» - запісаў у прыгаворы, што «Эпалет» выплаціць Вользе Кудраўцавай поўны кошт яе скрадзенай курткі.

Якая мараль вынікае з гэтай гісторыі? Ці толькі тая, што адміністрацыя падобных установаў нясе адказнасць за захаванне рэчаў у гардэробах? Не, і яшчэ раз - не! Асноўнае тут у тым, што толькі чалавек, які гатовы абараняць свае правы, атрымае перамогу.

А Вам «слабо»?

**Рэгіна Станкуце**

## Дайце выспацца студэнту!

**У інтэрнаце N2 ГрДзУ імя Я.Купалы (вул.Даватара,27) надзвычайнае здарэнне: заняткі пасля зімовай сесіі пачаліся, а жыць некаторым студэнтам няма дзе. А ўся справа ў тым, што ідзе рамонт. Пра хуткае яго заканчэнне, пакуль, відаць, даводзіцца толькі марыць. А пакуль ад гэтага пакутуюць студэнты, якія вымушаны здымаць кватэру ці туліцца ў сяброў. Ну, а калі кватэра не па кішэні, то ездзіць бедны студэнт кожны дзень на заняткі і назад - дахаты.**

Студэнтка Каця, напрыклад, каб прыехаць на заняткі, вымушаная штодня прачынацца ў чатыры гадзіны раніцы, а потым сядзець на вакзале, пакуль не развіднее.

- Я хачу, нарэшце, выспацца. Таму што, калі я яшчэ раз устану ў чатыры гадзіны раніцы, то папросту ціха памру, - кажа яна.

Камендант узгаданага інтэрната Ала Сіўко адмовілася адказваць на пытанні і, спасылаючыся на сваю некампетэнтнасць, адаслала да «вышэйстаячых органаў».

Вось і паўстае пытанне: хіба ж так можна? Навошта вымушаць маленькага чалавека на нікому не патрэбны «гераізм»? І чаму ніхто не звяртае ўвагі на гэтую абуральную несправядлівасць?

**Вікторыя Станкевіч**

## Келіх «Вітаўта» за каханых



**Прыемна было замест абрыдлага «Савецкага» выпіць на Дзень святога Валянціна ружовага шампанскага «Вітаўт».**

Праўда, прадаўшчыца строга зазначыла, што «Вітаўт» - усяго толькі «игристое вино». «А «Савецкае» - не пеністае, ды з Шампані прывезенае?» - пацікавіўся я, і ёй не было чаго адказаць.

Як вядома, ружовае пеністае віно «Вітаўт» - апошні выраб сталічнага завода шампанскіх вінаў. Праўда, называецца яно «Князь Вітаўт». Хаця ён быў «вялікім князем» - галавой дзяржавы, а не звычайным магнатам. Дый так дзякуй. Бо пару гадоў таму, калі завод адзначаў юбілей, быў выпушчаны новы гатунак «Князь Галіцын»... Можа, «Вітаўт» - і не самая прыдатная назва дя шампанскага, але з усякімі «паручнікамі галіцына-абаленскімі» не параўнаць.

**Сяргей Максімовіч**

# «Не пушчаць!»

## Менавіта так напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў рэагуе мясцовая «вертыкаль» на любыя дэмакратычныя ініцыятывы.

Адразу ў двух рэгіёнах Беларусі мясцовыя ўлады адмовіліся даць «згоду» на размяшчэнне новых незалежных выданняў. Сёмы раз (!) адмоўлена ў рэгістрацыі газеты «Голас Ліды» (заснавальнік - кіраўнік мясцовай арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Станіслаў Суднік). У той жа час без праблемаў мясцовыя ўлады далі «дабро» на стварэнне новай грамадска-палітычнай газеты «Лидский экспресс», якая будзе мець статус раённай газеты.

Пінскі гарвыканкам упарта адмаўляецца разглядзець дакументы рэдакцыі газеты «Вечерний Пинск» і даць згоду на размяшчэнне дадзенага СМІ на падведамаснай яму тэрыторыі. Пры гэтым кіраўнік гарвыканкама ў гутарцы з заснавальнікам газеты заявіў, што дакументы на стварэнне газеты не будуць разглядацца аж да верасня 2001 года.

І без тлумачэння прычынаў зразумела, што мясцовыя ўлады атрымалі адпаведныя ўказанні з Цэнтра і распачалі падрыхтоўку да прэзідэнцкіх выбараў. Відаць па ўсім, стварэнне новых незалежных газетаў у гэты перыяд не ўваходзіць у план перадвыбарных мерапрыемстваў адзінага кандыдата ад сённяшняй улады.

Думаю, няма неабходнасці казаць пра тое, што падобныя дзеянні ўладаў груба парушаюць правы грамадзянаў на свабоднае права заснавання сродкаў масавай інфармацыі і выказванне праз іх сваіх поглядаў і перакананняў, пра тое, што найпершы абавязак уладаў - прымаць усе даступныя меры для забеспячэння канстытуцыйных правоў і свабодаў грамадзянаў.

Важней адзначыць іншае: чыноўнікі фактычна пакінулі падначальвацца законам, іх зусім не бянтэжыць парушэнне палажэнняў «прэзідэнцкай канстытуцыі» (той самай, якая была ўведзеная ў дзеянне з парушэннем устаноўленага парадку і прывяла да зацяжнога канстытуцыйнага крызісу ў краіне. - **заўвага аўт.**). Адзіным законам для чыноўнікаў, відаць, сталі ўказанні «зверху». Менавіта за іх выкананне (дакладней - невыкананне) яны адказваюць сваёй пасадай. Гэта - прынцып аўтарытарнай улады: рабі, што загадаюць і не бойся за наступствы.

Але спадары-чыноўнікі, завіхаючыся перад вышэйшым начальствам, вы забываецеся на простых смяротных, якія таксама хочуць добра жыць, есці, адпачываць і атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю пра стан справаў у краіне і свеце. Аднак ва ўгоду сённяшняй уладзе вы пазбаўляеце мільёны грамадзянаў іх неад'емных правоў.

На якой падставе, дазвольце вас спытаць? У нас што, уведзена надзвычайнае становішча і прыпынена дзеянне канстытуцыйных правоў і свабодаў? Ці свабодныя грамадзяне Беларусі з нейкіх часоў ператварыліся ў падданых А.Лукашэнку?

Не будзем напружвацца ў пошуках адказу. Ён ляжыць на паверхні: галоўнаму вертыкальнаму начальніку хочацца на няпэўны час застацца «галоўным» у беларускай дзяржаве. Для гэтага ў поўную баявую гатоўнасць прыводзіцца ўвесь адміністрацыйны рэсурс. Дзяржаўным чыноўнікам дадзена каманда «У ружжо!». Перамога павінна быць дасягнутая любой цаной. У адваротным выпадку давядзецца трымаць адказы за сваё бяздарнае праўленне і парушэнні правоў грамадзянаў.

Сацыяльнае напружанне ў грамадстве павялічваецца. Усё больш людзей незадаволеныя сённяшняй уладаю, якая замыкаецца ў сабе і трымаецца за кошт «сілавых» структураў. Аднак без народнай падтрымкі яна не мае сілы і перспектывы. Міліцэйскія дубінкі здольныя запалохаць некаторую частку людзей, але яны не могуць нічога ствараць.

Грамадства стамілася ад самадурства, гвалту, падману, беспрасветнай галечы. Яно жадае зменаў, прадказальнай, інтэлігентай ўлады, стабільнасці і паляпшэння матэрыяльнага дабрабыту. Беларускі народ таксама хоча жыць па-еўрапейску.

У дэмакратычнай Беларусі не будзе месца для самавольства чыноўнікаў. Усякія абмежаванні канстытуцыйных правоў і свабодаў будуць адмененыя, у тым ліку ў інфармацыйнай сферы. Будзе не дазваляльны, а паведамляльны парадак стварэння СМІ. І прэса будзе свабодная. Не застанецца ніводнай дзяржаўнай газеты, як цэнтральнай, так і мясцовай.

Думаю, што тады ўзгадаюць тых, хто перашкаджаў стварэнню незалежных газетаў. Ім могуць прад'явіць прэтэнзіі, у тым ліку цераз суд. Але хутчэй за ўсё, іх пакінуць у спакоі: свабодалюбівыя людзі не злапамятныя. У новай улады не будзе патрэбы ў такіх чыноўніках. Як састарэлы матэрыял, яны будуць выкінутыя на сметнік гісторыі.

**Міхаіл Пастухоў,**
**доктар юрыдычных навук,**
**кіраўнік Цэнтра прававой абароны СМІ пры АТ «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**




# У Воранаве будзе пабудавана памежная камендатура

**«Гроднаграмадзянпраект» завяршыў распрацоўку архітэктурнага праекта памежнай камендатуры, якая будзе пабудавана ў г.п.Воранава.**

Замоўцам праекта з'яўляецца Дзяржаўны камітэт памежных войскаў Рэспублікі Беларусь. Галоўны архітэктар праекта - Аляксандр Захарчук, галоўны інжынер праекта - Уладзімір Андрыянаў. Памежная камендатура будзе ўяўляць сабою трохпавярховы комплекс на 110 чалавек, з вялікай колькасцю службовых памяшканняў (у тым ліку і для сабакаў), фізкультурна-аздараўленчай і спартыўнай зонамі, стралковым цірам, а таксама лазняй. Цікава, што быў асобна распрацаваны нават план агароджы.

На жаль, «Грамадзянпраект» працаваў над комплексам памежнай камендатуры вельмі доўга, таму Дзяржаўны камітэт памежных войскаў у далейшым адмовіўся ад паслуг нашых зямлякоў.

**Рэгіна Станкуце**

# Прыгожай можаш ты не быць, інтэлігенткай - мусіш

**З панядзелка пачаўся адбор самых прыгожых гарадзенскіх дзяўчатаў у прэтэндэнткі на традыцыйны конкурс «Каралева прыгажосці Міс Гродна-2001», які ладзяць кампанія «Mladi» і ўпраўленне культуры гарадзенскага аблвыканкама. Пераможцы гэтага конкурса будуць прадстаўляць Гарадзеншчыну на Нацыянальным конкурсе «Міс Беларусь».**

Выбіраць дзяўчатаў будуць прафесійныя гарадзенскія балетмайстры, цырульнікі і рэжысёры. Прыгажуні будуць хадзіць па подыуму ў сваіх вечаровых строях, а калі патрапяць у другі тур - у закрытых купальніках.

- Акрамя зграбнай паставы і фотагенічнасці, прэтэндэнтка павінна вылучацца інтэлігентнасцю, - лічыць Ігар Ляговіч, дырэктар кампаніі «Mladi», адзін з арганізатараў конкурсу. - Неінтэлігентнасці сцэна не церпіць.

Акрамя гэтых якасцяў, дзяўчаткі мусяць мець 16-24 гады і рост не меншы за 168 сантыметраў.

Адбор прыгажуняў будзе адбывацца і ў раённых цэнтрах. Трэцяга сакавіка - у Смаргоні, 18 сакавіка - у Лідзе, 31 сакавіка - у Навагрудку. Напрыканцы сакавіка ў Гродне пройдзе абласны кастынг, дзе вызначацца 16 фіналістак.

**Юлія Дарашкевіч**

# Лепшых дзяўчатаў назавуць 23 лютага

**З 19 па 23 лютага 12 дзяўчатаў - навучэнак музычна-педагагічных каледжаў і вучэльняў краіны - змагаюцца за права называцца лепшай у рэспубліканскай алімпіядзе прафесійнага майстэрства «Выкладання музыкі і музычнага выхавання». Алімпіяда праводзіцца на базе Гарадзенскай педагагічнай вучэльні. Вольга Гобец, Наталля Прэсняковіч і Кацярына Васілевіч прадстаўляюць у конкурсе гарадзенак.**

Акрамя іх, у алімпіядзе ўдзельнічаюць выхаванкі Гомельскага музычна-педагагічнага каледжа, Полацкага педагагічнага каледжа і Менскага педагагічнага каледжа N2 - ад кожнага па тры. Усе яны атрымалі перамогу на ўнутраных конкурсах у сваіх навучальных установах.

Дзяўчаты паспаборнічаюць у практычнай і тэарэтычнай частках алімпіяды. А менавіта: правядуць музычныя заняткі ў старэйшых групах дзіцячых садкоў, у трэціх, пятых, сёмых класах СШ N12, N14; пройдуць апытанне па тэме «Педагогіка і псіхалогія», а таксама прадэманструюць сваё выканаўчае майстэрства на фартэпіяна, баяне і акардэоне.

23 лютага зранку будуць абвешчаныя вынікі алімпіяды. Павінна быць вызначанае адно першае, два другіх і тры трэціх месцы. Але:

- Незалежна ад таго, зоймуць удзельніцы алімпіяды якое-небудзь прызавое месца ці не, ім усім будзе забяспечана ільготнае паступленне ў ВНУ краіны, - запэўніла старшыня журы, загадчыца кафедры методыкі музычнага выхавання і пастаноўкі голасу Таісія Каралёва.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Кожны пяты не мае свайго жылля

**Гарадзенскае абласное упраўленне статыстыкі падвяло канчатковыя вынікі перапісу насельніцтва, які адбыўся ў лютым мінулага года. Вось некаторыя дадзеныя перапісу.**

У галінах эканомікі было занята 510,5 тысячы чалавек, у тым ліку мужчынаў 265,6 тысячы, а жанчынаў 244,9 тысячы чалавек. Сярэдні ўзрост занятага насельніцтва ў гарадах склаў 38 гадоў, а ў сельскай мясцовасці - 39 гадоў. Сярод занятага насельніцтва 17,7 працэнта мелі вышэйшую адукацыю; 32,4 працэнта - сярэднюю прафесійную; 12 працэнтаў - пачатковую прафесійную і 28,8 працэнта - агульную сярэднюю адукацыю.

Колькасць беспрацоўных склала 35 188 чалавек, альбо 6,4 працэнта да колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва. З іх у гарадах - 28,6 тысячы, а ў вёсцы - 6,5 тысячы чалавек. Трэба адзначыць, што гэта вельмі высокі паказчык, калі ўлічыць, што ўрадам краіны праводзіцца палітыка штучнага захавання працоўных месцаў, многія прадпрыемствы працуюць у рэжыме няпоўнага рабочага дня (тыдня).

З тых 113,4 тысячы чалавек, якія міgraвалі на тэрыторыю вобласці з іншых краінаў, мігранты з Расеі складаюць 58,8 працэнта, з Украіны - 13,5 працэнта, Казахстана - 8,8 працэнта, Літвы - 8,1 працэнта. Абсалютная большасць з тых, хто прыехаў у нашу вобласць на жыхарства, - гэта выехаўшыя раней ад нас людзі. З дзяржаваў СНД да нас у вобласць прыехала 50,7 тысячы рускіх; 35,8 тысячы беларусаў і 10,3 тысячы палякаў. Сярод мігрантаў асобы працаздольнага ўзросту склалі: 70 працэнтаў, старэй за працаздольны - 22,8 працэнта, маладзей за працаздольны ўзрост - 7,2 працэнта.

На момант перапісу ў вобласці налічвалася 456,9 тысячы хатніх гаспадарак, сярэдні памер якіх складаюць 2,6 чалавекі (сям'я, сваякі альбо знаёмыя). Кожная чацвёртая хатняя гаспадарка (26,3 працэнта) складаецца з аднаго чалавека, а 8,6 працэнта - з адной маці з дзецьмі. Найбольшую ўдзельную вагу складаюць хатнія гаспадаркі, дзе ўсе беларусы - 68,8 працэнта; дзе ўсе палякі - 24,1 працэнта, дзе ўсе рускія - 6 працэнтаў, яўрэі, літоўцы і татары - 0,1 працэнта.

48,3 працэнта насельніцтва вобласці пражывала ў асобных кватэрах, 34,3 працэнта - у хатах. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што пятая частка жыхароў краіны не мае ўласнага жылля, гэта значыць, жыве ў інтэрнатах, здымае кватэру альбо яе частку, ці нават самаўпраўна засялілася ў непрыстасаванае аварыйнае памяшканне (хаця апошняя акалічнасць, як патлумачылі ПАГОНІ ва ўпраўленні статыстыкі, пры апытанні не ўдакладнялася) пры гэтым у асабістай уласнасці грамадзянаў знаходзілася 68,1 працэнта памяшканняў (у 1980 годзе - 43,8 працэнта). У памяшканнях, пабудаваных да 1945 года, пражывала 10,6 працэнта грамадзянаў, з 1945 па 1960 гады - 16,3 працэнта, з 1961 па 1980 гады - 34,1 працэнта, з 1981 па 1990 гады - 26 працэнтаў, з 1991 па 1995 гады - 9,9 працэнта, пасля 1995 года - 2,9 працэнта.

**Сяргей Сноп**

# Беларускія банкі: уклады і гарантыі іх вяртання

**Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь у апошнія дні студзеня прадставіў праект Закона «Аб гарантаванні вяртання банкаўскіх укладаў фізічных асобаў». Законапраект вызначае прававыя асновы гарантавання вяртання банкаўскіх укладаў насельніцтва.**




У адпаведнасці з часткай першай артыкула 99 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са зменамі і дапаўненнямі, Нацыянальны банк Беларусі не валодае правам заканадаўчай ініцыятывы, хаця да рэферэндума-1996 валодаў. Так што законапраект будзе ўнесены хутчэй за ўсё ад імя Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Плануецца, што ў выпадку банкруцтва банка ўкладчыку будуць вяртацца ўсе грашовыя сродкі пры суме ўкладу, эквівалентнай да 2000 даляраў ЗША. Пры большым памеры ўкладу працэнт вяртання будзе змяншацца (прапарцыянальна: чым больш сума, тым меней гарантыяў). Законапраект таксама прадугледжвае, што вяртанне ўкладу будзе трывала гарантавана не пасля правядзення працэдуры банкруцтва банка, а ва ўстаноўлены тэрмін і ўсім укладчыкам.

Нагадаем, што сёння, згодна з пастановай праўлення Нацыянальнага банка Беларусі (ад 1 верасня 2000 года), памер гарантуемага вяртання сродкаў па укладах складае 1000 даляраў ЗША. І рэальна, без прымусовай ліквідацыі банка, яго банкрутства, атрымаць нават гарантаваную 1000 досыць складана. Так што, калі ў красавіку-траўні 2001 года Закон «Аб гарантаванні вяртання банкаўскіх укладаў фізічных асобаў» будзе прыняты ў прапанаваный Нацыянальным банкам рэдакцыі, гэта будзе значным крокам наперад у накірунку рэальнай гарантаванасці ўкладу да 2000 даляраў ЗША.

Да таго ж, варта адзначыць, што на 1 студзеня 2001 года рублёвыя дэпазіты, а таксама дэпазіты замежнай валюты насельніцтва ў 27-мі функцыянуючых банках Беларусі падвысіліся больш чым у 4,3 раза. Адпаведна інфармацыі Нацыянальнага банка Беларусі, уклады ў нацыянальнай валюце на пачатак бягучага года склалі 112755,5 мільёна беларускіх рублёў, уклады ў замежнай валюце - эквівалент 252,4 мільёна даляраў ЗША.

Сярод камерцыйных банкаў краіны ўклады фізічных асобаў у працэнтных адносінах размеркаваліся наступным чынам:

1. **ААБ «Беларусбанк»** - 45,84 %;
2. **Белпрамбудбанк** - 11,28 %;
3. **Белзнешэканамбанк** - 6,63 %;
4. **Белаграпрамбанк** - 6,54 %;
5. **Прыёрбанк** - 5,42 %;
6. **«Белбалтыя»** - 5,04 %;
7. **Менсккомплексбанк** - 4,04 %;
8. **Белбізнесбанк** - 3,03 %;
9. **«Пошук»** - 2,25 %;
10. **Беларускі банк развіцця** - 1,89;

**Іншыя банкі** - 8,04 %.

ААБ «Беларусбанк» - бяспрэчны лідар на гэтым сегменце рынку. 45,84 працэнта - гэта амаль палова прыцягнутых сродкаў фізічных асобаў. І нават нягледзячы на крыху нізкі працэнт па ўкладах, чым у іншых банках... Таксама варта адзначыць, што сродкі фізічных асобаў размешчаныя ў асноўным у сямёрцы ўпаўнаважаных кіраўніком краіны банках, а менавіта: у Белаграпрамбанку, Беларусбанку, Белбізнесбанку, Белзнешэканамбанку, Беларускім банку развіцця, Белпрамбудбанку і Прыёрбанку. У гэтых банках знаходзіцца амаль 81 працэнт усіх прыцягнутых сродкаў фізічных асобаў, калі на астатнія 20 беларускіх банкаў прыпадае толькі 19 працэнтаў.

Такім чынам, можна зрабіць высնову, што некаторыя банкі з гэтай двацаткі ўжо сёння могуць адчуваць паўныя праблемы. Бо банкаўская сістэма Беларусі ў асноўным залежыць ад дзвюх крыніцаў: зберажэння насельніцтва і крэдытаў дзяржавы. На апошнее двацатка банкаў разлічваць не можа, кіраўнік краіны іх у склад упаўнаважаных банкаў не ўвёў... Так што, калі і ўкладаць свае зберажэнні, дык толькі ва ўказанныя вышэй сем банкаў, прычым не больш чым 1000 даляраў ЗША у адзін банк. А з прыняццем Закона «Аб гарантаванні вяртання банкаўскіх укладаў фізічных асобаў» - не больш як 2000 даляраў ЗША ў адзін банк.

І апошняе. Сёння для вяртання ўкладаў фізічных асобаў у «ненадзейных» банках краіны створаны гарантыйны фонд абароны ўкладаў і дэпазітаў пры Нацыянальным банку Беларусі. Аднак, пасля значных складанасцяў з вяртаннем грашовых сродкаў укладчыкам «Пошука» і «Белбалты» фонд паступова мялее. Магчыма, будуць прыцягнутыя іншыя сродкі Нацыянальнага банка. Бо толькі з 1 студзеня 2000 года па 1 студзеня 2001 года чыстыя золатавалютныя рэзервы Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь сягнулі з 98,3 мільёна даляраў да 150,3 мільёна даляраў ЗША.

Як бачым, рэзервы для гарантыяў па вяртанні ўкладаў грамадзянаў Беларусі ў дзяржавы ёсць: па выніках работы Нацыянальнага банка Беларусі - гэта 52 мільёны «варожых» грашовых адзінак. Ды і ў 2001 годзе даходы Нацыянальнага банка плануюцца паводле Закона «Аб бюджэце на 2001 год» у памеры 73 мільёнаў 333,3 тысячы даляраў ЗША.

**Сяргей Міронаў**

# Новы рэчавы рынак у цэнтры Гродна за $5 000 000

**Гарадзенскі Лядовы палац, што па вуліцы Горкага, з дзесятага лютага арганізаваў у сваім фае працу новага рэчавага рынку.**

Як патлумачыла эканаміст Лядовага палаца Таццяна Касьян, на гэты дзень тут гандлююць 43 камерсанты, якія прадаюць адзенне, касметыку, біжутэрыю. Уваход на рынак бясплатны.

Нагадаем, што Лядовы палац каштаваў бюджэту сама меней пяць мільёнаў даляраў. Падаецца, што гэта вельмі дорага, для таго, каб гандляваць там майткамі.

**Сяргей Самасей**

# Прымірэнне Еўропы пройдзе ў Гродне

**Менавіта пад такой назваю з другога па трэцяе сакавіка ў Гродне будзе ажыццяўляцца Міжнародны моладзевы праект, арганізаваны міжнароднай экуменістычнай асацыяцыяй «Pax Christi International» і Польскай асацыяцыяй маладых журналістаў «Поліс». А з беларускага боку арганізатарам з'яўляецца ГА маладых навукоўцаў «Віт». Мэта праекту - стварыць сетку арганізацыяў, што будуць займацца абменам і папулярызацыяй супрацоўніцтва паміж моладдзю Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Удзел у праграме возьмуць 50 маладых людзей з дзесяці краінаў Еўропы.**

Другога сакавіка ў рамках праекту пройдзе «круглы стол» з прадстаўнікамі выканаўчай улады, дзе будуць прадстаўленыя адміністрацыя Еўрарэгіёна «Нёман», Камітэт па справах моладзі аблвыканкама, Упраўленні культуры, адукацыі, грамадска-палітычнай інфармацыі ды інш. Пасля гэтага ўдзельнікі семінару наведаюць некалькі гарадзенскіх школаў, якія займаюцца міжнародным абменам. Таксама плануюцца сустрэчы з шэрагам моладзевых арганізацыяў Гродна.

**Алесь Зарэмбюк**

# Гарадзеншчына - апошняя

**Ні для каго не сакрэт, што ўзровень інвестыцыяў у эканоміку краіны - адзін з фактараў, якія ўплываюць на дабрабыт грамадзянаў.**

Узровень інвестыцыяў у эканоміку Рэспублікі Беларусь - трэці знізу сярод усіх еўрапейскіх дзяржаваў. Ніжэй за нас - толькі Грузія і Малдова...

На сённяшні дзень у Беларусі зарэгістравана амаль 3000 прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі. Аб'яўлены статутны фонд іх складае 880 мільёнаў даляраў ЗША. На прадпрыемствах з замежнымі інвестыцыямі сёння працуе больш як 72000 чалавек, што ўсяго 1,65 працэнта ад агульнай колькасці працуючых у краіне. Але, тым не менш, яны выпускаюць тавараў і аказваюць паслуг больш за дзевяць працэнтаў ад агульнага аб'ёму прамысловай вытворчасці Беларусі.

Замежныя інвестыцыі, «размеркаваліся» па рэспубліцы наступным чынам:
горад Менск - 52,2 %;
Гомельская вобласць - 21,9 %;
Менская вобласць - 10,6 %;
Віцебская вобласць - 5,1 %;
Берасцейская вобласць - 4,1 %;
Магілёўская вобласць - 3,1 %;
Гарадзенская вобласць - 3,0 %.

Апошняе месца сярод абласцей Беларусі па ўзроўню замежных інвестыцыяў займае Гарадзенская вобласць. Доўгі час нам даводзілася чуць пра лідзіруючыя эканамічныя паказчыкі Гарадзеншчыны. Як бачна - працаваць яшчэ трэба і працаваць.

**Максім Жмінда**

# Страйкаваць забараняецца

**Паводле новай калектыўнай дамовы, праект якой прадставіла кіраўніцтва дрэваапрацоўчага прадпрыемства «Самана плюс» на разгляд працоўнага калектыва, рабочым забараняецца арганізацыя і ўдзел у забастоўках. Дарэчы, гэты пункт прысутнічаў і ў мінулагодніх калектыўных дамовах.**

Звычайна дамова на сходах працоўнага калектыву не абмяркоўвалася, а падпісвалі яе два прадстаўнікі, якіх абірала адміністрацыя. І гэтую калектыўную дамову, нягледзячы на шматлікія парушэнні, зацвярджалі вышэйшыя прафсаюзныя органы і ўзгадняла раённае кіраўніцтва. Рабочыя таксама цярпелі да апошняга часу.

**Міхась Карпейчык**

# Дзед Мароз прынёс новы падатак

**Як нам паведамілі ў фінансавым аддзеле гарвыканкама, да існуючых з мінулага года мясцовых збораў за паслугі і паркоўку з новага года дабавіўся падатак за прамысловую нарыхтоўку (закуп) дзікарастучых раслінаў, грыбоў, тэхнічнай і лекавай сыравіны раслiннага паходжання.**

Памер падатка - пяць працэнтаў кошту прамысловай нарыхтоўкі.

Акрамя таго, пяціпрацэнтны збор за аказваемыя паслугі цяпер плоцяць усе гарадзенскія кавярні, бары, рэстараны, казіно, гатэлі, незалежна ад формы ўласнасці. Грошы ад новага збору накіроўваюцца ў бюджэт Гродна. Мэтавага накірунку ў гарадскім бюджэце для новых падатковых паступленняў не вызначана.

**Алена Сіневіч**

# Крадуць школьныя сняданкі

**На Гарадзеншыне працягваюць красці ежу. У аўторак былі распачатыя тры крымінальныя справы за крадзяжы.**

У вёсцы Анжадава Ашмянскага раёна невядомыя зламалі рашотку на школьнай сталоўцы і скралі адтуль харчы, якія прызначаліся для дзіцячых абедаў. У крадзяжы падазраюцца два жыхары Літвы.

Беспрацоўны слонімец спрабаваў абрабаваць мясцовы мясакамбінат. У той момант, калі ён цягнуў 15 кілаграмаў кілбасы, яго затрымалі супрацоўнікі службы «Ахова».

26-гадовы хлопец з Гальшанаў узламаў уночы замок на дзвярах мясцовага бара і скраў прадуктаў і грошай на 160 тысяч рублёў.

На Гарадзеншчыне штодзень адбываецца ў сярэднім каля трох крадзяжоў.

**Юлія Дарашкевіч**




# РЭКЛАМА Тэлефоны: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

Дом у Івацэвічах. Тэл. (8-01645) 2-22-15.

Рухавік і задні мост М-412 у добрым стане ды іншыя запчасткі. Тэл. 74-37-16.

Дом пад знос (вялікі зямельны ўчастак) у 15-ці кіламетрах ад Гродна; два мяккія крэслы (б/у), дзве пары жаночых туфляў, новыя вячэрнія туфлі, замшавыя боцікі (п.38-39), новы мужчынскі пухавік (п.48-50). Нядорага. Тэл. 5-96-56.

Капот для а/м «Ford Sierra». Вельмі танна. Тэл. 2-65-60.

Двухкватэрны драўляны дом побач з Бераставіцай: гаспадарчыя пабудовы, агарод, сад. Тэл. 31-72-26.

Дачу «Хімік-1», дыван-ложак (б/у), халадзільнік «Саратаў» (б/у), новы стол. Тэл. 31-23-97.

Драўляны дом у вёсцы Касцевічы (у двух кіламетрах ад Ваўкавыска). Танна. Тэл. у Ваўкавыску: 5-16-52.

3-пакаёвую кватэру і гараж у г.п.Воранава. Тэл. 5-12-15.

2-пакаёвую кватэру ў г.Іўе (чацвёрты паверх). Тэл. 72-51-71.

3-пакаёвую, добраўпарадкаваную кватэру ў цэнтры Ваўкавыска. Тэл. у Ваўкавыску: 2-31-28 (да 17.00), 2-50-99 (пасля 18.30).

А/м BMW-518, на беларускіх нумарах, 1979 года выпуску, у добрым стане, газ, бензін. Кошт 600 у.а. Альбо мяняю на іншую аўтамашыну. Прапаноўваць варыянты. Тэл. у г.п.Воранава (8-294) 2-13-46.

ВАЗ-21011. Тэл. 72-59-38 (пасля 18.00).

БУС- «Варкас», 8-мясцовы, газ-бензін; кошт - 800 умоўных адзінак. AUDI-100, бензін, 1979 года выпуску, у добрым стане; кошт - 500 умоўных адзінак. Тэлефон у г.Ліда: 2-78-82 (пасля 15.00).

Гараж на вуліцы Пушкіна. Тэл. 31-99-69 (пасля 19.00).

Масквіч-2140 (з дакументамі) па запчастках. Усё танна. Тэл. (8-294) 9-82-17 (увечары).

А/м «Volkswagen Passat», белага колеру, 1987 г.вып., 1,8 Б, у выдатным стане. Кошт - 1,5 у.а. Магчымы гандаль. Тэл. у Навасёлках: 91-61-55.

Рогі лася (11 разгалінаванняў), два паўтарачныя (1,5) ложкі (б/у, танна), магнітафоны «Сатурн-201», «Вега-328» - стэрэа, мужчынскія плашчы (памеры 46-54), мужчынскія касцюмы (п.48 рост 182, п.50 рост 176), асеннія жаночыя боты (п.37), зімовыя жаночыя боты (п.38), джынсавую куртку (п.50-52), жаночыя боты (п.37-37,5), жаночае дэмісезоннае паліто (44-48). Тэл. 33-79-95.

Ложак (1,5), ручную швачную машынку, касметычны інгалятар «Рамонак», крэсла. Усё б/у. Тэл. 74-09-19.

Інкубатар для прыватных гаспадарак ІНХ-5. Тэлефон у Дзятлаве: 22-2-27.

Лямпавы апарат мясцовай дарсанвалізацыі «Іскра-1». Звяртацца на адрас: г.Гродна, вул.Пушкіна, д.26, кв.11.

Факсімільнае выданне Бібліі Ф.Скарыны ў трох тамах; энцыклапедыю прыроды Беларусі ў пяці тамах; зборнік твораў Ул.Караткевіча ў васьмі тамах, зборнік твораў В.Быкава ў чатырох тамах; Руска-беларускі слоўнік у трох тамах, 1994 года выдання; том 2 зборніка твораў Я.Купалы. Тэлефон у Менску: (017) 258-43-54.

Сячкарню ў добрым стане. Тэл. (8-294) 23-2-99.

## КУПЛЮ

Таршэр. Танна. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных; запрасіць Святлану).

Бульбакапалку двюхрадную, прычапную (польскай вытв.), карбюратар аднакамерны да ГАЗ-21. Тэл. 44-75-31.

Раскошную 3-пакаёвую кватэру; металічныя слупы і плот, смалу. Тэл. 33-14-27.

Слоўнікі, падручнікі па балгарскай, англійскай, беларускай, нямецкай, польскай, чэшскай мовах. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Аднамясцовую надзіманую лодку, можна б/у. Танна. Тэл. 47-36-25.

## МЯНЯЮ

1-пакаёвую кватэру на другім паверсе ў цагляным доме ў Віцебску з тэлефонам - на такую ж у Паставах, Нарачы ці Мядзелі. Тэл. (8-02155) 2-34-59.

2-пакаёвую (пасля рамонту) кватэру старой планіроўкі ў цэнтры горада Бабруйска, з паасобнымі пакоямі - на раўнацэнную 2-пакаёвую кватэру ў цэнтры горада Гродна. Тэл. працоўны (8-022-51) 7-00-24; хатні (8-0225) 55-19-31 (запрасіць спадароў Ігара ці Святлану).

3-пакаёвую кватэру чэшскай планіроўкі - на 2-пакаёвую па вуліцах Дзяржынскага, Болдзіна, Курчатава, Горкага, БЛК, праспекту Будаўнікоў. Тэл. 31-23-97.

3-пакаёвую кватэру старой планіроўкі ў горадзе Бабруйску, з паасобнымі пакоямі, пасля рамонту - на раўнацэнную 3-пакаёвую кватэру ў горадзе Гродна. Тэл. (8-02251) 7-81-79 (запрасіць спадароў Віктара ці Наталлю).

## ПАСЛУГІ

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па метадыцы Р.Фоля. Ліц.МЗ РБ N224 да 30.12.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

ДОКТАР СЯРГЕЙ УЛАДЗІМІРАВІЧ КАЛЯДА
Інтэнсіўная псіхатэрапія АЛКАГАЛІЗМУ, ЗАЛІШНЯЙ ВАГІ, КУРЭННЯ. Найноўшыя метадыкі.
Тэл. 74-35-46 да 18.00 (Ліц. N796 да 2004 года, МЗ РБ).

Распрацуем ЛЕСАСЕКУ. Тэл. (8-214) 3-62-29. Ліцэнзія N1257 ад 24.03.2000 года, выдадзеная Мінсельгасам.

Юрыдычныя паслугі. Ліц. МЮ да 26.12.2005 года. Тэл. 33-68-47 (з 9.00 да 17.00).

Абарона ў гаспадарчым судзе. Ліц. МА N932 ад 26.12.2000 года. Тэл. 33-68-47.

Кансультацыі, кантрольныя работы па філасофіі і праву. Тэл. 47-32-70.

Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.

Набор тэкста на камп'ютары, раздрукоўка. Тэл. 74-37-16.

Распрацоўка праграмаў, устаноўка Windows ды інш.; рэпэтытарства па камп'ютары. Тэл. 74-02-31.

Урокі класічнай ігры на гітары на аснове сціслага вывучэння элементарнай тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

Камп'ютарны набор, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Усё, што звязана з Internet (пошук любой інфармацыі, рассылка лістоў і г.д.). Тэл. 31-15-83.

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Рэпэтытарства па матэматыцы, школьны курс. Тэл. 72-22-77.

Рэпэтытарства па матэматыцы, фізіцы, кантрольныя работы. Тэл. 72-58-53.

Рэпэтытарства па англійскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Французская мова: пераклады, кантрольныя работы, рэпэтытарства. Тэл. 31-44-74 (пасля 19.00).

Набор тэкстаў, курсавых работаў на камп'ютары. Раздрукоўка. Тэл. 44-70-03 (запрасіць Андрэя).

Польская, балгарская і беларуская мовы. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

Англійская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

Цэнтральная аварыйная дыспетчарская служба (ЦАДС) аказвае паслугі экскаватарам (ЮМЗ), прадпрыемствам, арганізацыям, прыватным асобам. Тэл. 0-75; а таксама тэл. 2-03-15 (пасля 18.00).

Англійская мова: рэпетытарства, пераклады. Тэл. 274-46-82, 211-00-00, альбо 9-39-87 (запрасіць Вольгу).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Рэпэтытарства па англійскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Англійская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Дапамагу ў выкананні задачаў, кантрольных, курсавых і дыпломных работаў па любых будаўнічых канструкцыях, супраціўленні матэрыялаў, тэарэтычнай тэхнічнай ды будаўнічай механіцы. Тэл. 72-16-55.

Рэпэтытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па беларускай, англійскай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Рэпэтытарства па хіміі, біялогіі. Тэл. 78-16-81.

Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнні відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліцэнзія МК N613 да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

Рамонт пыласосаў усіх тыпаў з гарантыяй. Выраб шматразовых фільтраў да імпартных пыласосаў. Ліц. N02645 да 2004 года. Тэл. для даведак: 6-45-74.

Сканаванне, раздрукоўка на фотапрынтары, фотамантаж. Танна. Устаноўка праграмаў на камп'ютар, дапамога пры набыцці ПК, рэпэтытарства. Тэл. 31-07-48 (запрасіць Віктара).

## РОЗНАЕ

Тых, хто зацікаўлены ў навуковай біяхімічнай альбо ў эксперыментальна-медычнай працы і мае вышэйшую біялагічную (медычную) адукацыю ці ступень кандытата навук, просім звяртацца на адрас: г.Гродна, 230009, а/с 155.

Вы паспяхова закончылі сярэднюю школу. Перад вамі стаіць пытанне: як далей пабудаваць сваё жыццё. Пажарны аварыйна-выратавальны атрад Ленінскага раёна г.Гродна запрашае Вас на вучобу ў навучальныя ўстановы Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь. Даведкі па тэл. 31-37-49.

Сябра БНФ з сельскага раёна, шукае кватэру (пакойчык) для свайго сына студэнта I курса ГрДзУ у асяродку нацыянальна-свядомых людзей (сем'яў). Лісты дасылаць на адрас: 230005, Гродна-5, а/с 135.

Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам, можна без мэблі. Тэл. 31-23-27.

Маладая сям'я здыме дом, палову дома ці 1-пакаёвую кватэру з мэбляй (часткова). Кошт - да 35 у.а. Тэл. 47-23-88.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-40.

Прапішу двух чалавек. Тэл. 6-83-19.

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі, па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

23-гадовы хлопец шукае працу мантажніка на прадпрыемстве. Тэл. 76-41-58.

Новы выбар на «Выставе аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі», што знаходзіцца ў Гродне па вуліцы К.Маркса,11 (другі паверх). Выстава працуе кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00 гадзін.

Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» - газету беларускіх нацыяналістаў. Звяртайцеся на адрас: 230003, горад Гродна, а/с 100.

Паважаныя гарадзенцы! Любая ваша дапамога, міласэрнасць і проста добрыя сэрцы патрэбныя Гарадзенскай арганізацыі аховы жывёлаў. Тэл. 44-92-79, 72-15-05.

## ЗНАЁМСТВЫ

Спадзяюся сустрэць жанчыну, дастойную кахання. Пра сябе: незалежны мужчына сярэдніх гадоў, 176/78. Разведзены, працую. Мастак. Шырокае кола зацікаўленняў, дамінуе сфера мастацтва. Люблю фота, жывапіс. Чакаю лісты на адрас: 230023, г.Гродна, вул.Томіна, 18а, пакой 96 (Віктару Дзмітрыевічу).

Мужчына, 46/176, пазнаёміцца з прыстойнай жанчынай, добрай гаспадыняй. Жыллём забяспечаны. Пісаць: 230029, г.Гродна, п/а 29, прад'яўніку пашпарта КН 0276380.

Пазнаёмлюся з прыстойнай беларускамоўнай дзяўчынай. Пра сябе: Ігар, 17/178. Пішыце на адрас: Берасце-30, 224030, п/п АВ 0420164.

Мужчына, 35/180/81, пазнаёміцца з жанчынай да 33 гадоў. Пажадана фота. Пісаць: 230023, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніку вайсковага білета БЕ 008703.

68-гадовы адзінокі забяспечаны мужчына пазнаёміцца з жанчынай такога ж і старэйшага ўзросту. Звяртацца: г.Салігорск, Менская вобласць, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніку пасведчання N399953.

## ВІНШАВАННІ

Віншуем сястрычку *Іначку Ткачову* з адметным днём у яе жыцці - 16-годдзем! Самай цудоўнай Іне ў гэты зімовы дзень - 1000 віншаванняў, а пажаданняў - сем!

*Будзь здаровенькай*
*і прыгожай,*
*Разумнай, пяшчотнай будзь,*
*Вясёленькай і шчаслівай,*
*Калі можаш, то нас*
*не забудзь!*

**Сястрычкі Аксана і Света**

З нагоды 70-годдзя з дня нараджэння *Чаславы Антонаўны Семяновіч* супрацоўнікі газеты ПАГОНЯ дасылаюць самыя шчырыя віншаванні! Жадаем найхутчэйшага выздараўлення пасля няшчаснага выпадку і вяртання да актыўнай грамадскай працы на карысць Бацькаўшчыны!

**Рэдакцыя ПАГОНІ**

Віншую *ветэранаў і рэзервістаў беларускай краёвай абароны* ў сувязі з угодкамі стварэння БКА - 23 лютага!

**Ф.Кушаль**

Мілы *Кацяра!* Віншуем цябе з Днём народзінаў! Жадаем мазгоў Архімеда, языка Нерона і ног Дэльп'ера!

**Твая сям'я Коцкіх**

# Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». Новы замак. Экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». Круглая зала. Выстава «Вобразы далёкія і блізкія», прысвечаная 80-годдзю музея. Сенатарская зала. Персанальная выстава мастака Станіслава Кузьмара. Экспазіцыя «Новыя набыткі»: жывапіс, графіка, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва сучасных беларускіх мастакоў.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Выстава сучаснай польскай графікі Іаана Галецкага і Ежы Панэка.

**Галерэя «У Майстра» (Кірава,8).** Шырокі выбар мастацкіх вырабаў.

**Галерэя «Тызенгаўз» (плошча Тызенгаўза,4).** Выстава мастака Уладзіміра Сідзякіна.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вуліца Ажэшкі,39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 24 лютага ў 12.00 - «Аладзін і чароўная лямпа». 25 лютага - «Тры парасяткі». Пачатак у 12.00.

**Лядовы палац спорту.** Гарадзенская абласная філармонія і Класс-клуб «Джаз Крафт» запрашаюць 1 сакавіка на канцэртную праграму Ларысы Долінай «Пакуль вы ўсе са мной». Удзельнічаюць: група «Скітальцы» і шоу-балет «Джокер». Пачатак у 19.00. Кошты квіткоў ад 12 да 17 тысяч рублёў.

**Палац культуры хімікаў.** 2 сакавіка - канцэрт народнай артысткі Жаны Бічэўскай. У канцэртнай праграме прымае ўдзел кампазітар і спявак Генадзь Панамароў.Арганізатар - Гарадзенская абласная філармонія. Пачатак у 19.00. Кошт квіткоў: 4000, 6000, 8000 і 10000 рублёў.

**Драмтэатр.** 11 сакавіка на Вялікай сцэне ў 12.00 - юбілейны канцэрт гарадзенскай харэаграфічнай студыі «Фолюш-балет». У праграме - танцавальныя фантазіі ў сучасным стылі. Мастацкі кіраўнік - Аляксандр Цебянькоў. Кошт квітка - 320 рублёў.

### Моладзевыя дыскатэкі

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**«Калізей-2000».** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпціз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**Начны клуб «Казанова».** Працуе з серады па нядзелю з 22.00 да 05.00. Па суботах - шоу-праграмы.

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

8 Імя і прозвішча ____________

Адрас (тэлефон) ____________

Рубрыка ____________

Тэкст ____________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

**Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11**

**Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам.**

# Аляксандр Барысаў: «Мы згулялі працэнтаў на 80 сваіх магчымасцяў»

**У мінулыя выхадныя гарадзенская баскетбольная каманда «Гродна-93» вярнулася з грузінскага горада Батумі, дзе адбываўся першы кваліфікацыйны тур чэмпіянату «Паўночнаеўрапейская баскетбольная ліга». Нягледзячы на другое месца, гарадзенцы паспяхова вырашылі пастаўленую задачу: выйшлі ў наступны этап. Пасля паразы ў першы дзень ад мясцовай каманды «Васка» з лікам 77:64, гарадзенцы больш, чым пераканаўча, перамаглі дзве эстонскія каманды: «Дэльту» - з лікам 80:84 і «Нойбіт» - 92:70. Пра вынікі турніра мы размаўляем з галоўным трэнерам «Гродна-93» Аляксандрам Барысавым.**

***- Ці паказала наша каманда тую гульню, якую яна часта дэманструе ў нацыянальным чэмпіянаце?***

- Мы згулялі, прыкладна, працэнтаў на 80 сваіх магчымасцяў. Я лічу, калі б мы сустракаліся з грузінскай камандай не ў першы дзень, мы абавязкова згулялі б больш паспяхова. Нашым баскетбалістам цяжка перайсці ад гульняў ва ўнутраным чэмпіянаце да гульняў на больш высокім узроўні. Гэта вельмі вялікая праблема. Хаця на працягу ўсяго турніра мы дэманстравалі стабільную гульню.

***- Чаму гульні праходзілі ў Батумі, а не, скажам, у Гродне?***

- Гэта залежыць не ад клуба, а ад кіраўніцтва «Паўночнаеўрапейскай баскетбольнай лігі». Перш чым даверыць правядзенне гульняў папярэдняга раўнда ў групе «А» грузінскаму гораду Батумі, кіраўніцтва Лігі праверыла ці адпавядае горад-прэтэндэнт такім спаборніцтвам. Кіраўніцтва Лігі палічыла, што Батумі мае магчымасці правесці адзін з этапаў кваліфікацыйнага раўнда. Сапраўды, у Батумі адрамантавалі баскетбольную залу, закуплена сучаснае абсталяванне, ёсць камфартабельныя гатэлі.

На жаль, наша зала «Вікторыя» не адпавядае патрабаванням ПЕБЛ. На сённяшні дзень ёсць магчымасць праводзіць гульні ў Лядовым палацы, але там неабходна ўсталяваць баскетбольнае пакрыццё, якога пакуль у нас няма.

***- Калі гэтая праблема будзе вырашана?***

- Гэтае пытанне не да мяне. Я - трэнер каманды і адказваю за яе падрыхтоўку. Ёсць у нас аблвыканкам, упраўленне па фізічнай культуры і турызму, яны і займаюцца гэтым пытаннем.

***- Ці будуць змены ў складзе «Гродна-93» перад гульнямі другога этапу?***

- Зменаў не будзе. У нас склад стабільны, згуртаваны, і я не бачу неабходнасці ўносіць карэктывы. Лічу, што варта папоўніць склад гульцамі, якія б значна ўзмацнілі нашу гульню. На жаль, у Беларусі такіх баскетбалістаў на сённяшні дзень няма.

***- А як жа гомельскі вундэркінд Уладзімір Верамеенка?***

- Калі б мы трапілі ў Паўночную Лігу, я б яго запрасіў. А з Гомеля забіраць у Гродна для таго, каб гуляць у чэмпіянаце Беларусі, гэта немэтазгодна і няправільна.

***- Не сакрэт, што памерлы старшыня аблвыканкама Аляксандр Дубко надаваў вялікую ўвагу баскетболу. Ці не паменшыцца гэтая ўвага з прыходам новага старшыні?***

- Канечне, страта вялікая, гэта адназначна. Ён быў вялікім аматарам спорту, а баскетболу - увогуле. Ён сам у мінулым - баскетбаліст. І таму дапамагаў камандзе... Аднак, жыццё працягваецца. У Гродне досыць даўнія і глыбокія баскетбольныя традыцыі. І той, хто зойме месца Аляксандра Іосіфавіча, я спадзяюся, з разуменнем паставіцца да нашых праблемаў.

**Гутарыў Дзяніс Курчэўскі**

# Падпальшчыца Харына

**У пятніцу акурат перад абедам у доме N12 па вуліцы Кірава запахла гарэлым. У лічаныя хвіліны ўвесь двухпавярховік запаўняюць клубы едкага чорнага дыму. З пад'езда з дзікім віскатам выскоквае сабачка з абпаленай поўсцю.**

- Пажар у трэцяй кватэры! - вестка хутка абляцае ўсіх суседзяў.

Па цэнтральных вуліцах горада разносіцца роў пажарных сірэнаў. Тры чырвона-белыя машыны падлятаюць да дому імгненна. У палаючую кватэру заліваюць больш як тону вады. Пажарнікі выкідваюць з вокнаў кавалкі матраца, асмаленыя спружыны з ложка, кучу счарнелых анучаў - усё, што ўдалося ўратаваць ад агню. Гаспадыня ўсяго гэтага дабра, спадарыня Харына, пад мітусню кудысьці знікае - баіцца пакарання за ўчыненую ёю бяду.

- Паліла ў ложку, не загасіла цыгарэту, - распавядаюць суседкі. На вачах кабетаў слёзы - ва ўсім доме безнадзейна пракуродымленыя мэбля і столі, фіранкі і бялізна.

- Гэтага трэба было чакаць, - абураецца Андрэй Георгіевіч, сусед Харынай. - Устроіла тут прытон. Да яе штодзень цэлы натоўп хадзіў. П'янствавалі, скандалілі, над сабакам сваім здзекаваліся - прывязвалі да батарэі і білі. Мы і ўчастковаму скардзіліся, але нічога не дапамагала.

Пажары ў жыцці Харынай не ўпершыню. Сваю папярэднюю кватэру яна спаліла паўгода таму. Прычынай таксама стала незагашаная своечасова цыгарэта.

**Юлія Дарашкевіч, Іна Матусевіч, інспектар пажарнай аховы**

## «Беларуская палічка» запаўняецца

**На інтэрнэтаўскай «Беларускай палічцы» за мінулы тыдзень адбыліся істотныя змены. Той, хто завітае на адрас - www.knihi.com - ужо сёння зможа прачытаць наступныя тэксты:**

- «Кар'ер» Васіля Быкава (са старонкі Reginald Smythe);
- «Дзёгаць» Максіма Гарэцкага;
- «Модніца» Івана Шамякіна;
- Віцебскі летапіс// Беларускія летапісы і кронікі (серыя БК);
- раздзелы з кнігі «Belarusian cuisine».

Таксама на «Беларускай палічцы» можна прагледзець новыя старонкі:

- Szyba - саматужная графіка;
- Газета «Беларускі Час»;
- Беларускі Фонд Культуры;
- На ростанях - Web-студыя.

# Гарым, браткі, гарым!

**16 лютага ў кватэры па вуліцы Горкага загарэўся тэлевізар «Электрон-738». Прычына пажару - няспраўнасць тэлевізара. Уладальнік кватэры эксплуатаваў тэлевізійны прыёмнік звыш устаноўленага тэрміну - больш як 10 гадоў.**

19 лютага ў чабурэчнай на вуліцы Ажэшкі,1 адбылося ўзгаранне тлушчавых адкладанняў у паветраводзе выцяжной вентыляцыі. Прычына - у парушэнні графікаў ачысткі вентыляцыйнага абсталявання.

**Сяргей Вішняк, інспектар ПАВА N1**

# Каго прынёс бусел?

**ПАГОНЯ працягвае друкаваць здымкі дзяцей, што нарадзіліся ў Гарадзенскім радзільным доме за апошні тыдзень. Чаму? Каб прыносіць у ваш дом дабро і пяшчоту, любоў і шчасце. Каб пра нараджэнне гэтых маленькіх цудаў, ведала не толькі ваша сям'я, але і ўся краіна. Тым больш, што некаторыя немаўляткі нарадзіліся 14 лютага - у Дзень закаханых.**

**ПАГОНЯ віншуе бацькоў з гэтым святам і жадае не спыняцца на дасягнутым!**



**Сын Іны і Валерыя Хлявіцкіх. Нар. 15.02; 4.200/55**



**Сын Ірыны ды Іосіфа Астроўскіх. Нар. 17.02; 3.350/52**



**Дачка Наталлі ды Канстанціна Фармагеяў. Нар. 18.02; 3.150/52**



**Дачка Ганны і Дзмітрыя Кірносаў. Нар. 17.02; 3.100/50**



**Дачка Алы і Юрыя Палавеняў. Нар. 16.02; 3.600/53**



**Дачка Наталлі Здановіч і Дзмітрыя Казлова. Нар. 14.03; 4.100/54**





**Двайняты Ганны і Леаніда Цеслюкевічаў. Нар. 13.02; злева хлопчык - 2.850/48, справа хлопчык - 2550/47**



**Дачка Ірыны і Рыгора Сідараў. Нар. 14.02; 3.650/53**



**Сын Вольгі ды Міхаіла Плюшчоў. Нар. 13.02; 3.950/52**



**Дачка Вольгі ды Юрыя Пугачэўскіх. Нар. 13.02; 3.800/51**



**Сын Аксаны і Валерыя Міхалькевічаў. Нар. 13.02; 2.650/50**

## ГАЛАВАЛОМКА

1.Тонкае высокагатунковае сукно (устар.). 2.Жук сямейства пласцініставусых. 3.Старое, перасохлае рэчышча. 4.Меліярацыйны канал на Беларусі ў Калінкавіцкім раёне Гомельскай вобласці. 5.Рыба роду ляшчоў. 6.Навука пра фізічныя працэсы ў глебе і раслінах. 7.Агнястрэльная зброя. 8.Доўгая жаночая сукенка для язды на кані. 9.Відавочная ісціна, што не патрабуе доказу. 10.Музычны твор або яго частка ў хуткім, ажыўленым тэмпе. 11.Мяккая здробненая маса з садавіны альбо гародніны, прыгатаваная для перапрацоўкі або ўжо перапрацаваная.




**Адказы на галаваломку, змешчаную ў N7 (503)**

1.Грацыя. 2.Алешня. 3.Мантыя. 4.Завея. 5.Алезія. 6. «Адысея». 7.Паэзія.

# Гараскоп

**♈ Баран (21.03-20.04).** Вы адчуеце ў сабе змогу прымаць адказныя рашэнні і паводзіць сябе адпаведным чынам. Адмоўцеся ад ласункаў і алкаголю.

**♉ Бык (21.04-20.05).** Хутчэй за ўсё, важную, неабходную Вам інфармацыю, трэба чакаць напрыканцы тыдня. А пакуль - займіцеся сваёй знешнасцю.

**♊ Блізняты (21.05-21.06).** За гэты тыдзень Вы паспееце не толькі добра выканаць руцінную працу, але і даволі няблага адпачыць. Асабліва ва ўікэнд.

**♋ Рак (22.06-22.07).** Паспрабуйце не ўскладняць адносіны са сваякамі. Надайце больш увагі сям'і - яна мае ў гэтым вялікую патрэбу.

**♌ Леў (23.07-23.08).** У другой палове тыдня Вы адчуеце неверагодны эмацыйны ўздым і прыліў моцы. Умела скарыстайцеся гэтым.

**♍ Панна (24.08-23.09).** Калі напраўду адчулі сябе надзвычай шчаслівым чалавекам, паспрабуйце прывабіць Фартуну і на гэтым тыдні.

**♎ Шалі (24.09-23.10).** Не палохайцеся дробных непрыемнасцяў на працы. Больш думайце пра здароўе і дабрабыт у сям'і.

**♏ Скарпіён (24.10-22.11).** Калі не жадаеце зведаць расчараванне, дык не бярыцеся за тое, пра што не маеце дастаткова поўнага ўяўлення.

**♐ Стралец (23.11-21.12).** Займіцеся самаадукацыяй, калі з'явіцца натхненне. Верагодна, сустрэнеце даўніх сяброў і знаёмых.

**♑ Казярог (22.12-20.01).** Вы здолееце з поспехам завяршыць усе распачатыя справы, праўда, дзеля гэтага давядзецца сканцэнтраваць увагу толькі на іх.

**♒ Вадалей (21.01-19.02).** Справы пойдуць значна лепей - відаць, чорная фінансавая паласа скончыцца, і Вы заўважыце станоўчыя зрухі ва ўсіх справах.

**♓ Рыбы (20.02-20.03).** Не пакідайце сур'ёзных справаў на другую палову тыдня. Разлічвайце толькі на ўласныя сілы.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 21.02.2001 г. Замова 656 Наклад 7 722

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей